Музейная педагогіка

# "Сакавіцкія світанкі"

***Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры ўжо доўгі час плённа супрацоўнічае з аддзелам адукацыі Мінскага райвыканкама.***

На працягу апошніх дзесяці гадоў ва ўсіх школах Мінскага раёна ў сакавіку праходзяць дэкады беларускай культуры і мастацтва "Сакавіцкія світанкі". У іх межах праводзяцца выставы малюнкаў і насценных газет, лінгвістычныя конкурсы, турніры эрудытаў, інтэлектуальныя гульні, літаратурныя чытанні і навукова-практычныя канферэнцыі, тэатральныя фестывалі і фальклорныя святы, паэтычныя гасцёўні і экскурсіі ў музеі, падарожжы на радзіму слынных людзей Беларусі, сустрэчы з пісьменнікамі, кампазітарамі, мастакамі.

Многія з гэтых мерапрыемстваў праходзяць на базе музея і сёння сталі ўжо традыцыйнымі. Сярод іх — конкурс чытальнікаў "Гучы, матчына мова...". Ён завяршае "Сакавіцкія світанкі". Вельмі сімвалічна, што менавіта ў сценах музея, які захоўвае літаратурную спадчыну, гучаць творы лепшых беларускіх пісьменнікаў. Здаецца, само асяроддзе спрыяе росквіту талентаў юных чытачоў. Тут жа адбываюцца і творчыя сустрэчы літаратурнага аб'яднання "Купалінка".

Ініцыятарам і каардынатарам усёй працы, што праходзіць у школах Мінскага раёна, з'яўляецца вельмі зацікаўленая, улюблёная ў сваю справу жанчына — Лілія Рыгораўна Жаўняркевіч. Дзякуючы яе руплівасці так актыўна і творча працуюць дзеці і настаўнікі.

Варта ўзгадаць некаторыя мерапрыемствы, што прайшлі ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. 1998 год — дзіцячыя Гарэцкія чытанні "Браму скарбаў сваіх адчыняю...". Іх віталі член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі, супрацоўнік Інстытута літаратуры Таццяна Дасаева. Былі вельмі цікавыя, сур'ёзныя тэмы дакладаў: Эльвіра Ярчак (Бараўлянская сярэдняя школа) — "Пошукі ідэальнага героя ў зборніку "Рунь" М.Гарэцкага"; Анжэла Бахановіч (Бараўлянская сярэдняя школа) — "Ранняя творчасць М.Гарэцкага ў святле нацыянальнага адраджэння"; Кацярына Рабека (Мачулішчанская сярэдняя школа) — "Фразеалагізмы, іх тыпы і варыянты ў аповесці М.Гарэцкага "Дзве душы" і інш.

1999 год — навукова-практычная канферэнцыя, прымеркаваная 200-годдзю з дня нараджэння нашага слыннага земляка, вядомага паэта Адама Міцкевіча "Адам Міцкевіч і Беларусь".

2000 год — канферэнцыя "Чалавек — гэта цэлы свет...", прысвечаная 100-гадоваму юбілею выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага. На сустрэчу з юнымі талентамі прыйшла дачка пісьменніка Рагнеда Рамаscore Рамаabout ноўская, выступіла літаратуразнаўца Людміла Карпава. Урыўкі з твораў К.Чорнага чытала Маргарыта Яфімава. Даклады былі самыя розныя: Таццяна Макаранка — "За што я люблю творчасць Кузьмы Чорнага", Таццяна Агафонава — "Чалавек як галоўны аб'ект мастацкага даследавання ў творах Кузьмы Чорнага", Кацярына Шашалевіч — "Старонкі дзённіка Кузьмы Чорнага" і інш.

Да 100-годдзя з дня нараджэння вядомых беларускіх паэтаў Уладзіміра Дубоўкі і Уладзіміра Жылкі ў гэтым годзе ў музеі прайшлі літаратурныя чытанні "Летуценнем пройдзем мы над краем...". Лепшых вызначалі Таццяна Дасаева, літаратуразнаўца, крытык, выкладчык БДУ, і Алесь Пашкевіч, паэт, празаік, выкладчык БДУ. Вельмі цяжка было журы: шмат цікавых, праблемных, навуковых прац. Таму было не тры, як звычайна, пераможцы, а пяць: Ліля Гайдукевіч (Чурылавіцкая сярэдняя школа) — "Казкі Уладзіміра Дубоўкі", Сяргей Дашчынскі — "Бард адраджэння", Юлія Гарошка (Бараўлянская сярэдняя школа) — "Тэма Бацькаўшчыны як найбольш выразны матыў паэзіі У.Жылкі", Ерануя Карапецян (Каладзішчанская сярэдняя школа) — "Бацькаўшчына як найбольш выразны матыў у паэзіі У.Жылкі", Кірыл Федасенка (Сеніцкая сярэдняя школа) — "Самотны ціхі храм хараства" (па творчасці У.Жылкі).

...Імгненна праляціць лета. Пачнецца новы навучальны год і працягнецца творчае супрацоўніцтва настаўнікаў, вучняў, навукоўцаў, музейшчыкаў.

**Вольга ГУЛЕВА.**

Экспедыцыі

# Удзельнічалі ў "пахаванні стралы"

***У чацвер Сёмушнага (Траецкага) тыдня Веткаўскі раён штогод ператвараецца ў своеасаблівую "Мекку" для "хаджаў"-фалькларыстаў з Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Справа ў тым, што сталыя жыхары некалькіх мясцовых вёсак адначасова са святкаваннем праваслаўнага Ушэсця (Узнясення) ладзяць "Пахаванне стралы" — старажытны абрад, які замыкае веснавы цыкл традыцыйнага календара і адкрывае дарогу летнім святам на Ўсходнім Палессі. На Веткаўшчыне існуе перакананне, што дзеянні, якія выконваюцца ў час абраду, зберагаюць ураджай ад пажараў, што могуць прынесці летнія маланкі.***

Разам са стракатай грамадой зацікаўленых на "Страле" вёсак Казацкія Балсуны і Янова ў гэтым годзе прысутнічалі студэнты БДУ культуры, што спецыялізуюцца на "фальклорным мастацтве". Культурна-антрапалагічная экспедыцыя, якую яны наладзілі 24 мая на Гомельшчыну, з'явілася своеасаблівым завяршэннем курса "Уводзіны ў беларускую спеўную этнафонію" (ён сёлета быў уведзены ў іх вучэбны план).

З удзельнікамі экспедыцыі — студэнтамі групы 119а і выкладчыкам Вячаславам Калацэем — "па гарачых слядах" гутарыць Людміла Клімовіч.

**Л.К. — Існуе меркаванне, што выязджаць на фальклорную практыку ў добра даследаванае месца нерацыянальна, тым больш калі гэта Веткаўшчына. Маўляў, усё даўно запісана, прааналізавана і выдадзена... Беларуская спеўная традыцыя — унікальная, выданні карыфеяў беларускай этнамузыкалогіі, напрыклад, Зінаіды Мажэйка, маюць лепшыя музычныя музеі Еўропы. Я зразумела, што большасць удзельнікаў экспедыцыі — спевакі. У сувязі з гэтым пытанне — што вам больш цікава: ведаць, як спяваюць, ці навучыцца спяваць самім?**

**Студэнты:** — Ну, вядома, нам трэба спяваць самім, гэта ж наша прафесія. Таму ўражанняў, як кажуць, паўнюткая падвода. Мы шмат слухалі аўтэнтычных аўдыёзапісаў на занятках, але ж праслухоўвання "жыўцом" не заменіць аніякая плёнка. Як тлумачылі нам нашы выкладчыкі, у культурнай антрапалогіі непасрэднае вывучэнне традыцыі, пры якім мае месца кантакт з яе носьбітамі, завуць "уключанае назіранне".

**Л.К. — А што думаюць выкладчыкі?**

**В.К.:** Студэнты, фактычна, ужо адказалі — мы ездзілі не за нотамі. Зводзіць фальклор, традыцыйную культуру да голага нотнага ці літаратурнага матэрыялу альбо рафінаваных песенек і казачак — не проста гвалт над яго прыродай, а з пункту гледжання гуманітарыяў увогуле нешта непаразумелае. Пра паэтыку народнай творчасці, культурны кантэкст, як і пра тэксталогію і герменеўтыку напісаны горы кніг.

**Л.К.:** — Што далі вам веды пра культурны кантэкст у апошняй экспедыцыі?

**Студэнты:** — Мы не толькі запісалі спеўны матэрыял, але даведаліся пра тое, што ўласна на Ушэсці не заўважна: якім чынам жыхаркі вёсак развучваюць песні (праз т.зв. нефармальную адукацыю — без спецыяльна арганізаванага працэсу навучання); у якім узросце распачалі спяваць (у 7-8 год яны ведалі ўжо некалькі песень, якія маглі выканаць сольна).

**В.К.** — Калі ўлічыць сталы ўзрост спявачак і, адпаведна, добрую захаванасць галасоў (што звычайна характарызуе вакаліста з добрай вакальнай школай), то гэтым знімаецца шмат пытанняў аб прыдатнасці навучання дзяцей беларускай спеўнай манеры. Гэта ўжо — матэрыял для этнапедагогікі і адзін з прыкладаў плёну ведаў пра "культурны кантэкст". Увогуле тэзіс пра цэласнае вывучэнне культуры — частка парадыгмы такіх гуманітарных дысцыплін, як культурная антрапалогія, этналогія. Некаторыя звесткі, якія мы здабылі ў экспедыцыі, дазваляюць знітоўваць "Стралу" як варыянт "Зялёных святкаў" з рэшткамі культаў Вялікай Маці, якія характэрны для першых старажытнаеўрапейскіх земляробаў.

**Л.К.:** — Можа, было яшчэ нешта адмысловае, не заўважнае адразу, што асабліва вас зацікавіла?

**В.К.:** — Зацікавіла, што з інструментаў, якія бытавалі ў сярэдзіне і другой палове XX ст., мясцовыя інфарматары называюць гармонік і, радзей, балалайку. Але ж песні пра "дудара" ведаюць амаль усе. Гэта — імаверныя адбіткі бытавання дуды (валынкі) ў рэгіёне. Шмат цікавага можна даведацца пра выкананне на бубне з дапамогай драўлянай палачкі-калатушкі. Нашы музыкі-прафесіяналы гэтага амаль не практыкуюць. Апошняе — своеасаблівы амбітны і этнапедагагічны выклік-заказ для нашых студэнтаў: творчым людзям заўсёды цікава рабіць тое, што не робяць іх калегі.

**Л.К.:** — Студэнты згодны?

**Студэнты:** — Вядома, так.

**Л.К.:** — А што вас найбольш уразіла?

**Студэнты:** — Ды ўсё, што пабачылі: і шчыльныя шэрагі шэсця ў Казацкіх Балсунах пад "Як пушчу стралу", і крывы танок, і выкачванне ў жыце, і пахаванне прадметаў-сімвалаў, і традыцыйныя строі выканаўцаў. Асаблівае ўражанне — іх свежыя, маладыя галасы.

**Л.К.:** — А ўсё ж такі, што ўразіла найбольш?

**Студэнты:** — Ведаеце, пасля сустрэчы ў хаце са спявачкамі з вёскі Янова выходзілі, як п'яныя. Гэта быў своеасаблівы культурны шок. Якія там касеты?! Кажуць, ёсць такі выраз: "Пабачыць Парыж і памерці", напэўна, гэта пра нашу сустрэчу. Мы яшчэ раз пераканаліся, што нездарма абралі прафесію, якая знітавана з народнай творчасцю.

**Л.К.:** — Які працяг будзе ў вашай экспедыцыйнай вандроўкі?

**В.К.:** — Цяпер мы апрацоўваем матэрыялы сумесна са студэнтамі. Мэты апрацоўкі — выключна ўжытковыя. Як будучыя прафесіяналы-"народнікі" яны павінны як мага больш шчыльна наблізіцца да традыцыйнай манеры спеваў і інтанавання беларускіх народных песень. Аналіз і перапрацоўка-класіфікацыя спеўных шэдэўраў Веткаўшчыны, вакальных прыёмаў, спосабаў гукавымання і інтанавання, асабліва пасля праслухоўвання "жыўцом" дапаможа ім набыць асновы паняційнага апарату, акрэсліць шляхі выкладання традыцыйных спеваў. Звесткі і аўдыёматэрыялы, якія мы вылучым з запісаў, увойдуць у дыдактычны матэрыял для заняткаў па этнафоніі, будуць уключаны ў падручнік, над якім цяпер працуе Таццяна Пладунова. Шмат у чым перспектывы фальклорнай практыкі залежаць ад кіраўніцтва ВНУ. І мы, і студэнты ўдзячны рэктарату БДУ культуры, без дапамогі якога гэтая наша сустрэча з традыцыяй не адбылася б.

**Гутарку вяла Людміла КЛІМОВІЧ, аспірантка Беларускай акадэміі мастацтваў.**

Пазашкольнае выхаванне

# Такі добры "домік"

***У наш час вялікая ўвага ўдзяляецца пазакласнай і пазашкольнай рабоце з дзецьмі. Гэтым мэтам служаць цэнтры выхаваўчай работы, створаныя ў многіх школах рэспублікі. Яны аснашчаны адпаведнымі сродкамі навучання і выхавання, неабходнымі метадычнымі дапаможнікамі.***

Асабліва плённа працуе Цэнтр выхаваўчай работы ў Цэнтральным раёне сталіцы. Тут падабраны высокакваліфікаваныя настаўнікі-выхавацелі, кіраўнікі гурткоў. Яны дапамагаюць дзецям развіваць свае творчыя схільнасці, прывіваюць любоў да той ці іншай прафесіі.

Так, трэнеры Ірына і Уладзімір Парахневічы (маюць вышэйшую катэгорыю), за 15 гадоў сваёй дзейнасці выхавалі звыш 400 пар танцораў, якія шмат разоў станавіліся чэмпіёнамі Рэспублікі Беларусь, пераможцамі міжнародных турніраў.

Сёння без развіцця пазашкольнай спартыўна-масавай работы і тэхнічнай творчасці цяжка гаварыць аб прафілактыцы п'янства і дэвіянтных паводзін дзяцей, таму гэтыя накірункі ў рабоце з'яўляюцца прыярытэтнымі.

Мэта тэхнічных гурткоў — прыцягненне да канструктыўна-тэхнічнай, рацыяналізатарскай і вынаходніцкай дзейнасці, выхаванне культуры працы. Шэсць накірункаў тэхнічнай творчасці ў Цэнтры аказаліся цікавымі для больш як 150 дзяцей. І вынікі відавочныя: суднамадэлісты (кіраўнік У.М.Пашкоў) занялі трэцяе месца (каманднае) па выніках года і першае і трэцяе месцы ў асабістых заліках, другое месца ў рэспубліканскіх і на міжнародных спаборніцтвах у Польшчы. Авіямадэлісты (кіраўнік А.М.Саўчанка) занялі прызавыя месцы ў гарадскіх спаборніцтвах. А майстар спорту А.В.Грахольская падрыхтавала групу дзяцей (гурток "Радыёпеленгацыя"), і на рэспубліканскіх спаборніцтвах яны занялі другое месца.

Работа дзяцей з гуртка "Разьба па дрэве" (кіраўнік Л.Д.Жданаў) — заўсёды ўпрыгожанне любой выставы. Цэнтр выхаваўчай работы заўсёды на слыху пры падвядзенні вынікаў любой выставы дэкаратыўна-прыкладной творчасці ці конкурсаў. Так, у гарадской выставе "Традыцыі і сучаснасць" гурткоўцы калектываў "Народныя рамёствы" (кіраўнік В.П.Савіных) і "Фальклорная мода" (кіраўнік Л.Ф.Козіч) сталі лаўрэатамі (1 і 2 месцы).

Дзеці, якія ўжо займаліся 2-3 гады ў гуртку "Народныя рамёствы", умеюць ткаць габелены, вышываць ручнікі, вязаць кручком, працаваць з саломкай і скурай.

У калектыве тэатра моды "Камея" (кіраўнік В.Л.Сумарокава) вучацца шыць адзенне і самі яго вельмі паспяхова дэманструюць на конкурсах.

Сістэматычна прымаюць удзел у кірмашах і выставах цудоўныя гурткі "Макрамэ" (кіраўнік Н.Л.Пазняк), "Фрывалітэ" (кіраўнік Т.А.Якаўлева).

У бягучым навучальным годзе пачала работу сацыяльна-педагагічная служба, якую наўмысна размясцілі ў раёне ЖЭСа 34 па вуліцы Кісялёва, 4. Гэтая служба працуе ў цесным кантакце з педагогамі-арганізатарамі клубаў па месцы жыхарства (загадчык кабінета псіхолаг В.А.Калашнікава). Гэта псіхалагічнае кансультаванне, псіхалагічная адукацыя, трэнінгавыя заняткі, прафілактыка негатыўных адхіленняў у псіхалагічным і асабасным развіцці дзіцяці, псіхадыягностыка, аказанне псіхалагічнай дапамогі па тэлефоне даверу.

Педагогі-арганізатары працуюць у цесным кантакце са школамі раёна. Адной з галоўных задач сумеснай дзейнасці з'яўляецца работа з падлеткамі, якія стаяць на ўліку ў ІСН, знаходзяцца на ўнутрышкольным кантролі. Але каб дзіця прыйшло ў адзін з калектываў, яго трэба зацікавіць.

Цэнтру пазашкольнай работы "Кантакт" Цэнтральнага раёна Мінска, які на працягу 15 гадоў узначальвае Ніна Эдуардаўна Абліцэва, у бягучым годзе споўнілася 25 гадоў. У ім працуюць у профільных аддзелах 186 гурткоў, у якіх займаецца 2,5 тысячы дзяцей і падлеткаў. Гэтая шматпрофільная ўстанова мае наступныя функцыі: адукацыйную, выхаваўчую, метадычную, арганізацыйна-вольначасовую, сацыяльна-псіхалагічную.

Вынікова працуе арганізацыйна-творчы аддзел, дзе прыярытэтнымі накірункамі дзейнасці з'яўляюцца: усебеларуская экспедыцыя "Наш край", нацыянальнае адраджэнне, экалагічнае выхаванне, інтэлектуальныя гульні, супрацоўніцтва са школамі і грамадскімі арганізацыямі, тэатралізаваныя прадстаўленні, творчыя конкурсы, гульневыя праграмы.

Своеасаблівай цікавай формай арганізацыі вольнага часу старшакласнікаў з'яўляецца клуб ролевых гульняў "Пятніца-12", дзе з поспехам рэалізуюцца творчыя здольнасці і запыты падлеткаў (кіраўнік С.Н.Майлычка).

На працягу навучальнага года аддзелам мастацкай творчасці былі праведзены 62 канцэрты ў школах, дзіцячых дамах, воінскіх часцях, у дзіцячых установах закрытага тыпу.

У 2001 годзе пацвердзілі званне ўзорных два вядучыя калектывы Цэнтра — тэатр харэаграфічнай мініяцюры "Фрэскі" (кіраўнік В.В.Сарока) і тэатр-студыя "Тайм" (кіраўнік А.В.Ланкоўская), які прыняў удзел у запісе праграмы на тэлебачанні і радыё і паставіў спектакль па п'есе Эрдмана "Самазабойца" на сцэне Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.

Цудоўныя фальклорныя калектывы "Панначка" (кіраўнік Д.В.Асташэўская) і "Скавыш" (кіраўнік Е.Н.Талоцкая) заўсёды прымаюць удзел у фальклорных фестывалях, канцэртах і конкурсах.

Ёсць у Цэнтры і студыя сучаснага танца "Блэйк Фокс" (кіраўнік А.І.Язвін), адзначаная журы фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства", якая прыме ўдзел у гала-канцэрце.

Лялечна-драматычны тэатр "Калібры" (кіраўнік С.Н.Майлычка) падрыхтаваў спектакль па п'есе Метэрлінка "Сіняя птушка", а дзіцячы тэатр "Спектр" (кіраўнік Т.А.Ціханоўская) вялікую работу праводзіць па месцы жыхарства, выступаючы ў школах і клубах.

Вакальна-фальклорны калектыў "Кола" (кіраўнікі Т.Кавалёва, І.Ліпская) спалучае ў сваёй рабоце элементы інструментальнай музыкі, вакала і харэаграфіі, выкарыстоўваючы аўтэнтычны фальклор.

Фізкультурна-аздараўленчая і турыстычная работа вядзецца Цэнтрам спорту і турызму, дзе займаюцца звыш 700 дзяцей (узначальвае А.М.Юркевіч). Гэта клуб здаровага ладу жыцця, клуб спартыўнага танца "Мэта", шахматны клуб, настольны тэніс, гурткі аэробікі, атлетызму, вяслярнага слаламу, турызму. За бягучы год Цэнтр падрыхтаваў 11 спартсменаў-разраднікаў. Гурткоўцы Цэнтра ўдзельнічалі ў гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных турнірах і злётах.

З вялікім майстэрствам працуюць кіраўнікі гурткоў, у многіх з якіх стаж работы ў Цэнтры перавышае 10 гадоў. І найбольш вопытныя — працуюць з дзецьмі-дашкольнікамі. Так, намеснік дырэктара Л.Я.Паляшчук арганізавала школу ранняга развіцця на базе дзіцячага садка. А метадыст Цэнтра І.Г.Вількіцкая — школу бармэна, дзе набываюць прафесію старшакласнікі.

Гэта значыць, што любы жадаючы — ад 6 да 21 года — можа заняцца сваім любімым заняткам у нашых калектывах. Таму гурткоўцы свой Цэнтр называюць ласкава "домікам".

Ва ўсіх набытых дасягненнях — неацэнная заслуга работнікаў Цэнтра і аддзела адукацыі Цэнтральнага раёна Мінска, а таксама яго загадчыка Юрыя Канзаса.

**Аляксей КІРПІЧЭНКАЎ, выдатнік народнай асветы.**

Перыёдыка

# "Народная асвета"

***"Адукацыя ў Беларусі мае глыбокія гістарычныя карані і традыцыі. Але сённяшнія пераўтварэнні ў сістэме адукацыі рэспублікі як ніколі раней спрыяюць стварэнню ўмоў для рознабаковага развіцця асобы, набыцця высокай кваліфікацыі, павышэння культурнай і інтэлектуальнай кампетэнцыі чалавека. Менавіта ва ўстановах адукацыі ствараюцца цяпер аснова, правобраз і эталон стагоддзя адукацыі, лепшыя ўзоры сацыяльна-культурнага жыцця ў грамадстве ведаў", — разважае галоўны рэдактар часопіса А.В.Маслава ў сваім артыкуле "Без адукацыі няма шанцаў", якім адкрываецца чэрвеньскі нумар.***

Менавіта з гэтага нумара педагогі рэспублікі будуць атрымліваць свой прафесійны часопіс "Народная асвета" павялічанага фармату і палепшанага дызайну. Апрача таго, у часопісе абноўлены ранейшыя традыцыйныя і ўведзены многія новыя рубрыкі, што дапаможа работнікам адукацыі лепш арыентавацца ў тэматыцы публікацый.

У прыватнасці, новая рубрыка "Рэформа школы: стратэгія і тактыка" ў гэтым нумары адкрываецца артыкулам намесніка міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, кандыдата педагагічных навук Г.Д.Дыляна "Кіраванне якасцю адукацыі ва ўмовах рэфармавання школы". Змешчаны таксама разважанні намесніка дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце, настаўніка гісторыі Навадзявяткавіцкай сярэдняй школы Слонімскага раёна В.У.Ракуця пра адукацыйны стандарт агульнай сярэдняй адукацыі.

Пад рубрыкай "Філосафы — практыкам" надрукавана публікацыя вучоных Нацыянальнага інстытута адукацыі М.Ф.Печанко, Т.М.Буйко, К.Ю.Смірновай, С.М.Астраумавай і У.Р.Бондарава "Адукацыя, грамадства, асоба". Артыкулы намесніка дырэктара гэтай установы, кандыдата фізіка-матэматычных навук Г.М.Пятроўскага "Інавацыі ў адукацыі" і загадчыцы лабараторыі сельскай школы інстытута В.М.Салдатавай "Адрас клопату — сельская школа" змешчаны пад рубрыкай "Лёс эксперыменту".

Пра сутнасць і змест пілотнага эксперыменту па асваенні расійскай адукацыйнай праграмы "Школа 2100", які з 1 верасня гэтага года павінен стаць адным з самых масавых і, па разліках спецыялістаў, самым эфектыўным у сістэме адукацыі нашай рэспублікі, расказваецца ў публікацыі "Беларусь — Расія: шляхі і перспектывы супрацоўніцтва".

Публікацыя аспіранта Беларускага дзяржаўнага універсітэта А.А.Градзюшкі "ЮНЕСКА і сучасныя адукацыйныя тэхналогіі" змешчана пад рубрыкай "Трыбуна маладога вучонага".

Пра вопыт работы сярэдняй школы № 113 Мінска па экалагічным навучанні вучнёўскай моладзі расказваецца ў публікацыях, падрыхтаваных супрацоўніцай часопіса З.А.Лысенка. Навуковай творчасці вядомага беларускага вучонага-педагога, першага прарэктара Акадэміі паслядыпломнай адукацыі У.Т.Кабуша, якому споўнілася 60 гадоў, прысвечана падборка матэрыялаў, надрукаваных пад рубрыкай "Партрэт асобы ў адукацыі".

У нумары прадстаўлены таксама публікацыі вядучага інспектара галоўнага ўпраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь В.В.Мацюшэнкі і выкладчыка кафедры раманістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта М.І.Дзятчык, рэктара Вышэйшай гуманітарна-эканамічнай школы Лодзі (Польшча), кандыдата філасофскіх навук, прафесара М.К.Стасяка, доктара філасофскіх навук, прафесара, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь В.А.Салеева.

Завяршаецца нумар публікацыямі "Палажэння аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі (акрамя вышэйшых навучальных устаноў) Рэспублікі Беларусь", а таксама прынятых і апублікаваных нарматыўных прававых актаў у Рэспубліцы Беларусь з 1 студзеня па 30 красавіка гэтага года.

**Уладзімір ЯКУБОВІЧ.**



Трыццаць гадоў кіруе гуртком картынга і канструявання на Слонімскай станцыі юных тэхнікаў Канстанцін Антонавіч Рэмез. Яго вучні прадстаўлялі свае работы на многіх выставах у рэспубліцы і два разы на ВДНГ у Маскве. Яны ўдзельнічалі ў спартыўных спаборніцтвах. Без тэхнікі, сабранай рукамі дзяцей, не абыходзіцца ні адно гарадское свята.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Гульня — гарант дзяцінства

# "Гісторыя рэчаў"

***У гульні ўдзельнічаюць чатыры каманды па сем удзельнікаў. Вядучы задае пытанні абедзвюм камандам. На абдумванне даецца 30 секунд. Перад пытаннем называецца яго кошт (колькасць ачкоў). Гульня складаецца з трох раўндаў. Першыя два выяўляюць пераможцаў для гульні ў фінале. Перамагае каманда, якая набрала большую колькасць ачкоў.***

***У правядзенні гульні дапамагае каманда экспертаў (настаўнікі, вучні), якая можа адначасова быць і журы.***

***Гульня разлічана на вучняў 7-9 класаў***

## Першы тур

Уявіце сабе, што вы запрошаны ў сярэдневяковы замак Крэва, рэзідэнцыю князёў Вялікага княства Літоўскага.

Такім чынам, вы прысутнічаеце на званым банкеце ў сценах аднаго з самых магутных мураваных умацаванняў XIV стагоддзя. На стале — багацце ежы і напіткаў. Сярод іх:

1. Дзічына са смажанай бульбай.
2. Гусь, фаршыраваны рысам.
3. Рассыпістая грэцкая каша.
4. Грыбны суп.

I. Увага, пытанне: укажыце, якія гістарычныя памылкі зроблены пры пералічэнні меню званага абеду.

Адказ: На стале не магло быць першай і другой з пералічаных страў. Бульба з'явілася ў Еўропе ў сярэдзіне XVI ст.; рыс — пасля крыжовых паходаў — у XIII-XIV стст., значыць, у ВКЛ — яшчэ пазней.

З глыбокай даўніны нашы продкі вырошчвалі жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, проса. Даўно народ авалодаў тэхнікай вырабу мукі, тайнамі выпечкі хлеба з дражджавога цеста.

II. Увага, пытанне: уменню выpабляць дражджавое цеста і выпякаць хлеб славяне навучыліся ў: а) германцаў; б) кельтаў; в) скіфаў-аратых і грэкаў Прычарнамор'я.

Адказ: у скіфаў-аратых і грэкаў Прычарнамор'я.

III. Увага, пытанне: выpабляць дражджавое цеста і выпякаць хлеб славяне навучыліся ў: а) V ст. да н.э.; б) II-III ст. н.э.; в) VIII-IX стст. н.э.

Адказ: у II-III стст. н.э.

* * *

Усім вядома прыказка: "Каша — маці наша". Ва ўсіх народаў-земляробаў зерне і крупы з яго былі сімвалам гаспадарлівасці, сямейнага дабрабыту, прадметам пашаны. На вяселлях нявест асыпалі зернем, на трызны ў памяць пра нябожчыкаў варылі памінальную куццю. У казках, былінах каша — абавязковы атрыбут абедаў, сімвал багацця, дабрабыту.

IV. Увага, пытанне: усім добра вядомы выраз "З ім кашы не зварыш". Растлумачце гісторыю паходжання гэтага выразу.

Адказ: арабскі падарожнік Ібн-Фатлан расказвае, што нашы продкі, калі заключалі мірны дагавор, варылі кашу разам з былымі ворагамі.

* * *

Паводле археалагічных даных, славяне вырошчвалі чатыры асноўныя злакі: пшаніцу, ячмень, проса, жыта. Першыя тры культуры адносяцца яшчэ да эпохі неаліту, а жыта з'явілася пазней. Проса некалі было асноўнай ежай старажытных славян. Летапіс ад 997 года паведамляе, што нашы продкі варылі пшаніцу, адцэджвалі і запраўлялі яе мёдам.

V. Увага, пытанне: значна пазней паяўляецца яшчэ адна злакавая культура, якую называюць "просам сарацынскім". Дайце сучасную назву гэтай злакавай культуры, назавіце краіну, адкуль яна магла з'явіцца ў нас.

Адказ: рыс, Візантыйская імперыя.

## Другі тур

У сярэднявеччы існавала выслоўе: "Багаты, як мяшок з перцам". Усходнія вострыя прыправы (перац, карыца, шафран, лаўровы ліст) прыйшлі да нашых продкаў з Візантыйскай імперыі. Зразумела, спачатку яны маглі ўвайсці ва ўжытак вельмі багатых людзей.

VI. Увага, пытанне: на стале ў каго ўпершыню маглі быць выкарыстаны ўсходнія вострыя прыправы: а) Гастамысла (да Рурыка); б) Рурыка (862-879); в) Ігара (912-945); г) Гедыміна (1295-1319)?

Адказ: як вядома, Ігар не адзін раз хадзіў на Царград, і ўжо з 911 года ў Канстанцінопалі існавалі пастаянныя калоніі рускіх купцоў. Значыць, менавіта з XI стагоддзя ўсходнія вострыя прыправы маглі быць на стале знаці.

* * *

Лес займае ў нашай краіне вялізныя прасторы. Выкарыстанне дароў лесу — адна з самых характэрных асаблівасцяў нашай кухні. Асаблівае месца сярод дароў лесу займаюць грыбы. Сухія белыя грыбы, салёныя груздзы, рыжыкі, ваўнянкі, свежыя падасінавікі і падбярозавікі маглі быць на сталах у сярэдневяковым замку.

VII. Увага, пытанне: хто з пералічаных ніжэй князёў мог першым пакаштаваць марынаваныя грыбы: а) Уладзімір Святаслававіч "Святы" (960-1015); б) Ягайла (1377-1392); в) Вітаўт (1392-1430); г) Васіль II (1432-1446); д) Іван III Васільевіч (1462-1505)?

Адказ: з вядомых пісьмовых крыніц толькі "Дамастрой" XVI ст. не толькі згадвае пра воцат, але і апісвае спосабы яго прыгатавання. Раней яго замянялі квасам, таму, верагодней за ўсё, Івану III першаму давялося пакаштаваць марынаваных грыбоў.

Вельмі многія з вас, напэўна, любяць кавуны. Але не ўсе ведаюць, што радзіма гэтай расліны — Паўднёвая Афрыка. І перамяшчэнне з Персіі на нашы землі звязана з трагічнымі старонкамі айчыннай гісторыі.

VIII. Увага, пытанне: хто першым мог пакаштаваць кавун: а) Аляксандр Неўскі; б) Дзмітрый Данской; в) Алена Васільеўна Глінская?

Адказ: у рускія землі кавун упершыню трапіў падчас татарскага нашэсця. Як вядома, Аляксандру Яраслававічу, які правіў з 1252 па 1263 год, даводзілася і не па сваёй волі бываць у мангольскай стаўцы.

* * *

Адна з нашых нацыянальных страў — гэта бульба. Як вядома, радзіма яе — Паўднёвая Амерыка (сённяшняя дзяржава Перу). Народы, якія насялялі гэтыя мясціны, пачалі культываваць бульбу 14 тысяч гадоў назад.

IX. Увага, пытанне: хто са знакамітых еўрапейцаў мог першым пакаштаваць стравы з бульбы: а) М.Лютэр (памёр у 1549); б) І.Гутэнберг (1445); в) У.Шэкспір (1564-1616)?

Адказ: першыя клубні бульбы трапілі ў Іспанію ў 1565 годзе. А ў 1616 годзе бульба падавалася ў Францыі да каралеўскага стала. Таму вельмі магчыма, што ўжо Шэкспір пакаштаваў стравы з бульбы першым.

## Трэці тур

На Русі піццём (да чаю) служылі квас, мёд, аўсяны кісель, малако. Як вядома, чай адзін з самых старажытных напояў. Яго радзіма — Кітай. Упершыню ўзгадваецца ў рукапісе 2700 г. да н.э.

X. Увага, пытанне: паяўленне чаю на Русі звязана з: а) мангольскім нашэсцем (1240-1480); б) падарожжам Афанасія Нікіціна ў Індыю (1466-1472); в) падарункам аднаму з маскоўскіх цароў? Магчыма, у вас ёсць уласная версія адказу.

Адказ: у Расію чай трапіў з Манголіі ў 1638 годзе, калі Алтын-хан прыслаў у падарунак цару Міхаілу Фёдаравічу Раманаву (1613-1645) 4 пуды чайнага ліста. З канца XVII ст. (1679) чай у Расію пастаўляўся з Кітая. З еўрапейцаў першымі завезлі чай у сваю краіну ў 1517 годзе партугальцы.

* * *

Гісторыя піваварства, як і гісторыя вінаробства, мае глыбокія карані. Клінападобныя пісьмёны на камянях сведчаць пра тое, што за 7 тысяч гадоў да н.э. у Старажытным Вавілоне рабілі піва. Летапіс на папірусах расказвае пра тэхналогію прыгатавання піва ў Старажытным Егіпце за 2 тысячы гадоў да н.э.

XI. Увага, пытанне: якому народу належыць права вынаходніцтва спосабу атрымання віна: а) хетам; б) фінікійцам; в) грэкам; г) егіпцянам; д) шумерам?

Адказ: шумерам. 5,5 тыс. гадоў назад у гарах на захадзе Ірана археолагі знайшлі гліняны збан. На дне яго была чырвоная пляма. З дапамогай інфрачырвонай спектраскапіі ўдалося даказаць, што ў тым збане захоўвалі віно. Збан адносіўся да так званай Урукскай культуры.

* * *

Як вядома, у Францыі вельмі багатыя традыцыі вінаробства. Французскія вінаробы вывозілі ў Англію сталовыя вінаградныя віны рачным транспартам. Гандаль не заўсёды ішоў паспяхова. Віно скісала і псавалася. Тады і з'явілася ідэя пераганяць спірт, што ў ім утрымліваўся. Так паявіўся сусветна вядомы напітак "каньяк", які сваю назву атрымаў ад горада Каньяк, што знаходзіцца ў даліне ракі Шаранта ў Францыі.

XII. Увага, пытанне: хто з пералічаных манархаў Рэчы Паспалітай мог першым пакаштаваць французкі напітак "каньяк": а) француз Генрых Валуа, які кіраваў з 1573 па 1574 год; б) швед Уладзіслаў IV Ваза (1632-1648); в) венгр Стэфан Баторы (1576-1586); г) немец Аўгуст III Саксонскі (1733-1763)?

Адказ: швед Уладзіслаў IV Ваза, таму што каньячная вытворчасць была арганізавана ў Каньяку ў 1641 годзе.

* * *

Вяртаемся ў Крэўскі замак. Як вы разумееце, ежу на стол падаюць у адпаведным посудзе. Я пералічу посуд, з дапамогай якога быў сервіраваны выдатны званы абед. Такім чынам, на сталах знаходзіліся: а) талеркі; б) міскі; в) чашкі; г) чашы, збаны; д) нажы, відэльцы.

XIII. Увага, пытанне: якія з пералічаных вышэй прадметаў не маглі быць у той час (XIV ст.) выкарыстаны для сервіроўкі стала?

Адказ: талеркі з'явіліся ў Францыі ў XV стагоддзі, нажы і відэльцы як прадметы сервіроўкі стала з'явіліся ў Заходняй Еўропе ў XIV стагоддзі пасля крыжовых паходаў.

* * *

Уладальнікі Крэўскага замка мелі парадны посуд і посуд для паўсядзённага карыстання. Падчас піру стол сервіравалі самым дарагім посудам. Такім чынам, на стале знаходзіўся посуд: а) фаянсавы; б) гліняны; в) сярэбраны; г) фарфоравы; д) залаты; е) драўляны.

XIV. Увага, пытанне: посуд з якога матэрыялу не мог быць выкарыстаны для сервіроўкі гэтага стала?

Адказ: фаянсавы посуд з'явіўся ў Заходняй Еўропе ў XVI стагоддзі, у Расіі — у XVIII ст.; фарфоравы посуд у Заходняй Еўропе — у XVIII ст., у Расіі — у XVIII ст.

* * *

А цяпер адна маленькая дэталь — сурвэткі. У Расіі сурвэткі прыжыліся пры Пятры І. Само ж слова "сурвэтка" прыйшло да нас ад немцаў, якія, у сваю чаргу, пераналі яго з італьянскай мовы.

XV. Увага, пытанне: чаму старажытныя рымляне выкарыстаныя падчас абеду сурвэткі не мылі, а каб ачысціць, кідалі ў агонь?

Адказ: рымляне выраблялі свае сурвэткі з... алебастру.

* * *

Гаворачы пра ежу, нельга не закрануць тэму гігіены. Наступнае пытанне — пра гісторыю ўсім нам сёння вядомай рэчы — мыла. Як вядома, еўрапейцы сталі сістэматычна мыць рукі перад ядой, бо навучыліся гэтаму ва ўсходніх краінах, падчас крыжовых паходаў.

XVI. Увага, пытанне: наладжаная вытворчасць мыла існавала ў: а) першабытным грамадстве; б) антычныя часы; в) сярэдневяковы перыяд.

Адказ: археолагамі ўстаноўлена, што ўжо 6 тысяч гадоў назад існавала наладжаная вытворчасць мыла.

**Уладзімір ПУЧКОЎ, настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 2 Валожына.**

